Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №2(86), люты, 2017г.

# «ВЕРАБЕЙКА ГАВАРУШЧЫ» ДАЛЯЦЕЎ І ДА ВІЦЕБСКУ

**26 студзеня ў «Эўрапэйскім клюбе» абласнога цэнтру адбылася чарговая сустрэча зь беларускім бардам і журналістам «Радыё Свабода» Зьмітром Бартосікам. Гэтым разам ён прэзэнтаваў віцебчукам сваю кнігу «Быў у пана верабейка гаварушчы…»**

Як заўважыў спадар Зьміцер, кніга паўстала дзякуючы перадачы «Падарожжы Свабоды», аднак гэта ня зборнік перадач, хаця першапачаткова была менавіта такая задума. Пасьля таго, як рукапіс трапіў у рукі сур'ёзнага рэдактара, Сяргея Дубаўца, яе аб'ём скараціўся напалову і набыў кніжны фармат.

Назва кнігі нарадзілася таксама з парады **Сяргея Дубаўца.** Пасьля таго, як патасныя назвы кшталту «Лёсы й дарогі» адпалі самі сабой, той параіў аўтару ўзяць цытату з расповеду адной з гераінь і зрабіць яе назвай.

«Быў у пана верабейка гаварушчы…» – гэта анэкдот, які распавяла старая сялянка зь вёскі Дзямідаў за Мазыром. Да рэвалюцыі ў той мясцовасьці жыў магнат Горват, у якога быў гаварушчы верабейка. Так сяляне называлі папугая. Дык вось, гэты папугай меў звычку распавядаць пану пра ўсе сялянскія правіны, якія тыя ўчынілі за час панскай адсутнасьці ў маёнтку. За што ўрэшце і паплаціўся: баронячыся ад панскага гневу зашылі гаварушчаму верабейку сяляне жопу. Пасьля чаго той паўтараў усяго адну фразу: «Шыла-шыла, дый зашыла». Здох не адразу, таму пан нікога не западозрыў, – здох праз сваю языкатасьць ды адданасьць гаспадару.

Спадар Зьміцер кажа, што гэтая гісторыя ўвасобіла ў сабе ўсю сутнасьць кнігі. Гэтая грубаватая народная алегорыя яскрава перадае пакручасты лёс беларусаў у дваццатым стагодзьдзі, калі «жопу зашылі» ня толькі панскім падпявалам, але і самім зашывальшчыкам і усяму народу ў цэлым.

Нявыдуманыя народныя гісторыі, сабраныя па ўсёй краіне ад захаду да ўсходу, адкрываюць чытачу зусім іншую Беларусь і беларусаў зь несавецкай мэнтальнасьцю і каштоўнасьцямі, якія ня здолелі паламаць ані рэвалюцыя, ані калектывізацыя, ані сталінскія рэпрэсіі, ані ідэалягічныя ўстаноўкі. У гэтым і палягае сапраўдная каштоўнасьць кнігі. І хоць у



кнізе больш прадстаўленая геаграфія захаду, але тыя гісторыі, якія аўтар пачуў на крайнім усходзе, ні на якім захадзе, як ён выразіўся, ніхто не распавёў бы.

Мяркую, той, хто скарыстаўся з нагоды наведаць сустрэчу з Бартосікам, ня быў расчараваны. У аўтарскім выкананьні народныя гісторыі насычаліся непаўторным калярытам, багатымі сэнсавымі інтанацыямі, індывідуальнымі адметнасьцямі герояў, аўтарскім гумарам ды іроніяй, якіх так не хапае пры асабістым чытаньні. З майго ўласнага перакананьня, твор абавязкова трэба чытаць толькі ўголас, бо інакш губляецца калясальная эмацыйнасьць і ўнутраная энэргія народных расповедаў, гэтак удала ўвасобленых пісьменьнікам.

Скончыўшы чытаньне, спадар Зьміцер узяў у рукі гітару. Некалькі песьняў у ягоным выкананьні сталі сапраўдным падарункам для прыхільнікаў ягонай творчасьці. У сувязі з чарговай гадавінай Уладзімера Высоцкага пачулі прысутныя і некалькі песьняў з рэпэртуару расейскага выканаўцы.

Пасьля сустрэчы ўсе ахвочыя атрымалі ў падарунак прэзэнтаваную кнігу з аўтографам аўтара.

С. Горкі, vitebskspring.org

# 99% БЕЛАРУСАЎ ЛІЧАЦЬ, ШТО НЯ МОГУЦЬ ПАЎПЛЫВАЦЬ НА ОРГАНЫ ЎЛАДЫ

**У чэрвені 2016 году беларускі цэнтар бізнэстэхналёгіяў Satio на замову міжнароднай некамэрцыйнай арганізацыі Pact правёў апытаньне 1005 беларусаў пад назвай «Тэст на грамадзянскасьць». У лютым Pact апублікаваў справаздачу па выніках «тэсту».**

99% апытаных лічаць, што ня могуць паўплываць на дзяржаўную палітыку і органы ўлады на мясцовым і нацыянальным узроўні. 64% лічаць, што ў Беларусі дзяржава ўсё вырашае ва ўсіх сфэрах жыцьця. Пры гэтым шмат хто ня ведае, каму належыць улада.

55% адказалі, што адзінай крыніцай улады ў Беларусі паводле Канстытуцыі ёсьць прэзыдэнт. Толькі 33,1% ведалі правільны адказ: адзіная крыніца ўлады — народ. Астатнія ці не адказалі на пытаньне, ці назвалі адзінай крыніцай улады парлямэнт. Пры гэтым 50% апытаных ня ведалі, як завецца парлямэнт (да 1996 года парлямэнтам быў Вярхоўны Савет, але Лукашэнка яго разагнаў, сабраўшы са сваіх прыхільнікаў замену парлямэнту: Нацыянальны сход, што складаецца зь верхняй палаты —Савету Рэспублікі, і ніжняй палаты — Палаты прадстаўнікоў).

Толькі 3% апытаных змаглі назваць свайго дэпутата ў мясцовых саветах і 3,8% — свайго дэпутата ў Палаце прадстаўнікоў. 25% нічога ня ведаюць аб працы парлямэнту.

Аж 18% апытаных ніколі не бывалі за межамі

*працяг на стар.4*

**Магістрат**

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр
грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23,
713-22-00, 218-98-38,
711-24-47, 593-15-34,
517-32-53.




**Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
E-mail: kas_vit@tut.by
WWW.NARODNY.ORG
VK.COM/PARTYJA_BNF
VK.COM/BNF_MOLADZ
*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

# 80-Я ГАДАВІНА «ВЯЛІКАГА ТЭРОРУ»

**14 лютага прайшло чарговае пасяджаньне аргкамітэту па стварэньні грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы». Грамадзкія актывісты прыгадалі зьдзейсьненае за 2016 год і склалі плян працы на найбліжэйшы час.**

Ініцыятыва «Хайсы» паўстала празь пяць месяцаў пасьля таго, як у кастрычніку 2014 году ў лесе ля вёскі Хайсы жыхар вёскі Лужасна **Сяргей Кудзінаў** дапамог грамадзкім актывістам адшукаць месца масавых пахаваньняў рэпрэсаваных у трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя грамадзянаў. Разрабаваныя чорнымі капальнікамі магілы, вакол якіх валяліся касьцяныя парэшткі, настолькі ўразілі, што было вырашана распачаць працу па ўшанаваньні памяці пра бязьвінных ахвяраў савецкага таталітарызму.

Як паведаміў старшыня ініцыятывы **Ян Дзяржаўцаў**, на шляху да аднаўленьня гістарычнай праўды грамадзкія актывісты сутыкнуліся з зацятым супрацьдзеяньнем з боку чынавенства Віцебскага раёну і розных структураў МУС, КДБ , Узброеных сілаў Беларусі ў асобе кіраўніцтва 52-га пошукавага батальёну.

Амаль ва ўнісон прадстаўнікі дзяржаўных структураў пераконваюць, што знойдзеныя парэшткі належаць асобам, якія сталі ахвярамі фашыстаў за часамі акупацыі. Пры гэтым ніхто зь іх не зьвяртае аніякай увагі на сьведчаньні амаль трыццаці жыхароў Віцебску, Дрыкольля, Хайсоў, Лужасна і Мазалава, якія альбо на ўласныя вочы бачылі, як расстрэльвалі людзей, альбо чулі пра тое ад бацькоў ці аднавяскоўцаў. Не ўзялі яны пад увагу і заўвагі археолягаў **Міколы Крывальцэвіча** і **Валянціны Вяргей**, якія ўдзельнічалі ў раскопках Курапатаў і наведалі Хайсы ў прыватным парадку. Урэшце парэшткі, паднятыя 52-м пошукавым батальёнам, прыканцы 2016 году без прыцягненьня шырокай грамадзкасьці былі перапахаваныя на вайсковым мэмарыяле станцыі Лужасна.

Старшыня абласной арганізацыі БНФ, а па сумяшчальніцтве сакратар ініцыятывы «Хайсы», Кастусь Смолікаў паведаміў, што пасьля гэткага абыякавага стаўленьня да сьведчаньняў мясцовых жыхароў і цынічнага абыходжаньня з парэшткамі рэпрэсаваных яшчэ 17 кастрычніка 2016 году ён зьвярнуўся да старшыні выканаўчага камітэту Віцебскага раёну Г. Сабыніча. Як абласны кіраўнік палітычнай партыі ён запатрабаваў ад кіраўніка Віцебскага раёну зрабіць усё неабходнае, каб на 2017 год вядомыя месцы пахаваньняў каля вёсак Паляі, Хайсы і ў Цёплым лесе былі ўнесеныя ў плян палявых работ 52-га пошукавага батальёну.

Адказ на свой кастрычніцкі зварот ён здолеў атрымаць толькі ў студзені, пасьля асабістага наведваньня адміністрацыі Віцебскага раёну, дзе ўзяў копію адказу, нібыта дасланага заяўніку поштай яшчэ 18 лістапада. У падпісаным намесьніцай старшыні райвыканкаму Ксеніяй Карабач лісьце сьцьвярджаецца, што «падставаў для правядзеньня палявых пошукавых работ няма». Няма з тае прычыны, што ў райвыканкам ніякай інфармацыі пра знаходжаньне касьцяных парэшткаў у ваколіцах азначаных вёсак ні ад асобных грамадзянаў, ні ад дзяржаўных структураў не паступала. Як кажуць у такіх выпадках, «без камэнтараў».

Пагадзіцца з гэткім станам рэчаў актывісты ініцыятывы «Хайсы» ня могуць, таму сёлетняя работа якраз і будзе скіраваная на аднаўленьне гістарычнай праўды. Работа будзе засяроджвацца на пошуку новых сьведкаў трагедыі і азнаямленьні грамадзкасьці зь іх успамінамі.

Вось плян дзейнасьці на найбліжэйшы час:

У 80-годзьдзе піку сталінскіх рэпрэсіяў зьвярнуцца да уладаў з прапановай правесьці сумесна шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да гэтага трагічнага году.

Працягнуць працу па пошуку месцаў пахаваньняў рэпрэсаваных.

Працягнуць усталяваньне памятных крыжоў ля месцаў масавых расстрэлаў у ваколіцах Віцебску.

Усталяваць памятную шыльду на сьцяне віцебскай турмы, дзе ў трыццатыя гады зьдзяйсьняліся катаваньні і забойствы рэпрэсаваных.

Працягнуць працу па складаньні сьпісу грамадзянаў, рэпрэсаваных у Віцебскай вобласьці.

Зрабіць запыт у сьледчы камітэт Віцебскага раёну ў сувязі з адсутнасьцю інфармацыі пра далейшы лёс парэшткаў, узятых на экспэртызу з раскопаў у лясным масіве ля вёскі Хайсы.

Пачаць працу па стварэньні фільму, заснаванага на ўспамінах сьведкаў пра месцы масавых расстрэлаў ля Віцебска.

Зладзіць фотавыставу аб месцах пахаваньняў рэпрэсаваных, зьнішчаных за Саветамі.

Падаць дакумэнты для рэгістрацыі грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы».

Пры канцы сустрэчы Ян Дзяржаўцаў выказаў спадзяваньне, што ініцыятыва папоўніцца новымі чальцамі – сваякамі грамадзянаў, некалі рэпрэсаваных у Віцебскай вобласьці.

С. Горкі

# ВЫНІКІ ЛЮТАЎСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

**4 лютага ў цэнтральнай сядзібе БНФ адбылося пасяджэньне Сойму Партыі БНФ і Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне".**

Кіруючы орган партыі і руху абмеркаваў бягучую палітычную сытуацыю, зацьвердзіў асноўныя накірункі дзейнасьці партыі на бягучы год, абмеркаваў пытаньні падрыхтоўкі да наступных выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў, заслухаў даклад аб падрыхтоўцы да 99-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай народнай рэспублікі.

З палітычным дакладам пра бягучую палітычную сытуацыю выступіў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. Лідэр партыі адзначыў, што з часу апошняга пасяджэньня сойму знайшлі працяг ранейшыя палітычны тэндэнцыі: апошняя сустрэча Лукашэнкі з грамадзкасьцю прадэманстравала няздольнасьць сёньняшняга кіраўніцтва краіны даць адказ на выклікі, якія цяпер стаяць перад краінай, у прыватнасьці, не прагучала адэкватнага адказу на той антыбеларускі наступ, які вядзецца цяпер з боку Расеі. Ва ўмовах пагаршэньня адносінаў з Расейскай Фэдэрацыяй улады не ведаюць, як існаваць без расейскай падтрымкі, не маюць бачаньня развіцьця краіны.

Старшыня партыі спыніўся на негатыўных наступствах Дэкрэту №3 ды іншых актаў заканадаўства, якімі ўлады ўводзяць новыя падаткі і зборы з беларусаў, намагаючыся перакласьці на насельніцтва негатыўныя наступствы сваёй правальнай эканамічнай палітыкі.

Аляксей Янукевіч даў станоўчую ацэнку змякчэньню ўмоваў уезду ў Беларусь грамадзянаў Эўразьвязу, ЗША, ды іншых краінаў. Аднак ён падкрэсьліў палавінчаты характар уведзенага пяцідзённага тэрміну бязвізавага знаходжаньня ў Беларусі грамадзянаў развітых краінаў – лагічным наступным крокам павіннае быць поўнае скасаваньне візаў.

Лідэр БНФ падкрэсьліў, што на дадзены момант улады не гатовыя для сыстэмных структурных умоваў у эканоміцы і не гатовыя да крокаў па прыцягненьні ў Беларусь замежных інвестыцыяў. Замест гэтага рэжым імкнецца выдаць за рэформы скарачэньне сацыяльных гарантыяў і павелічэньне падаткаў.

Па словах Аляксея Янукевіча, цяпер эканамічны канфлікт афіцыйнага Менску з Крамлём пераходзіць у палітычнае рэчышча. І на гэтым тле вялікую небясьпеку ўяўляюць вайсковыя вучэньні "Захад-2017", запланаваныя на восень гэтага году. Правядзеньне ў Беларусі сумесных з Расіяй маштабных ваенных вучэнняў, на думку Янукевіча, можа быць адказам на вучэнні «Анаконда», якія прайшлі ў Польшчы ў 2016 годзе з удзелам 30 тысяч вайскоўцаў НАТА. Пры гэтым ён лічыць малаверагодным, што Крэмль выкарыстае вучэньні для ціску на Мінск у фармаце зьмены самой цяперашняйулады: «Вядома, гэта ўсё ж магчыма з улікам непрадказальнасьці расейскіх уладаў. Але, хутчэй за ўсё, Пуцін паспрабуе знайсці палітычнае рашэньне, каб прадэманстраваць напярэдадні сваіх прэзідэнцкіх выбараў прывабнасць Расіі для саюзнікаў», – сказаў палітык. У любым выпадку, падкрэсьліў Янукевіч, вучэньні не адпавядаюць нацыянальным інтарэсам Беларусі, паколькі «абвастраюць сітуацыю ў рэгіёне, паказваюць, што Расея з тэрыторыі Беларусі можа ажыццяўляць агрэсію на тэрыторыю суседніх краінаў». Па словах старшыні Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, Расія не збіраецца адмаўляцца ад размяшчэння ў Беларусі ваенных баз з мэтай прымусіць кіраўніцтва краіны «да больш цеснай інтэграцыі ў палітычнай і ваеннай сферах».

Пры такіх умовах у 2017 годзе БНФ павінныя працягнуць дзейнасьць па абароне незалежнасьці і нацыянальных інтарэсаў.

У межах гэтага кірунку партыя, паведаміў яе старшыня Аляксей Янукевіч, мае намер правесці шэраг кампаній: у абарону статусу беларускай мовы як дзяржаўнай, за скасаваньне супольных з Расеяй вайсковых вучэнняў у Беларусі «Захад-2017», супраць віз «саюзнай дзяржавы», за кантроль на мяжы з Расеяй, за поўную аднастароннюю адмову ад віз для грамадзян ЕС, ЗША, Канады, Аўстраліі ды іншых краінаў.

Таксама партыя пляную патрабаваць увядзення крымінальнай адказнасьці за публічныя выказваьнні, якія адмаўляюць існаваньне беларускай нацыі, беларускай мовы і беларускай дзяржаўнасьці; спрыяць умацаваньню патрыятычнага духу ў беларускім войску; намагацца выхаду Беларусі з ЕАЭС і АДКБ.

Акрамя таго, у 2017 годзе Партыя БНФ пляную праводзіць дзейнасць для кантролю за дзейнасьцю дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. У выпадку неналежнага выкананьня дзейным дэпутатам сваіх перадвыбарных абяцаньняў і абавязкаў, партыя пляную арганізацыю кампаній адклікання дэпутатаў з мэтай дамагчыся паўторных выбараў у акрузе.

Асобнымі кірункамі дзейнасьці Партыі БНФ стануць арганізацыя і правядзеньне ў Менску ды іншых гарадах масавых акцый.

На прапанову старшыні партыі Сойм Партыі БНФ прыняў рашэньне падтрымаць ініцыятыву дэпутата Алены Анісім аб вядзеньні законапраектнай дзейнасьці на беларускай мове. Кіруючы орган партыі пастанавіў далучыцца да збору подпісаў пад зваротам да кіраўніцтва Палаты прадстаўнікоў з патрабаваньнем, каб праекты законаў пісаліся па-беларуску. Намесьнік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў адзначыў, што з прапановай да партыі далучыцца да кампаніі па пашырэньні выкарыстаньня беларускай мовы ў парлямэнце выступіла сама Анісім. Прадстаўнікі рэгіянальных арганізацыяў падтрымалі ініцыятыву кіраўніцтва партыі і ТБМ, і заявілі пар гатоўнасьць распачаць збор подпісаў пад зваротам да старшыні палаты прадстаўнікоў Андрэйчанкі.

У абмеркаваньні палітычнай сытуацыі і плянаў дзейнасьці партыі на бягучы год ўзялі ўдзел намесьнікі старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і Ігар Лялькоў, сябры Сойму Станіслаў Суднік, Зьміцер Дрыгайла, Вадзім Болбас, Вадзім Саранчукоў, Кастусь Смолікаў, Андрэй Церашкоў, Вітольд Ашурак, Алесь Жучкоў.

Па выніках дыскусіі сойм зацьвердзіў прапанаваны кіраўніцтвам праект асноўных накірункаў дзейнасьці Парыі БНФ у 2017 годзе.

З рэплікай наконт небясьпекі раздзьмуваньня штучнага канфлікту сярод беларусаў з нагоды адраджэньня ліцьвінскай ідэі выступіў сябра Партыі БНФ Вячаслаў Сіўчык. Ягоны выступ быў засяроджаны на той дыскусіі, якая выбухнула ў сацыяльных сетках з нагоды супрацьпастаўленьня ліцьвінскай ідэі і беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Тэма знайшла жвавы водгук у сябраў Сойму, аднак, канстатаваўшы недапушчальнасьць правакацыяў і выкарыстаньня

***працяг на стар.4***

# ВЫНІКІ ЛЮТАЎСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

ліцьвінскай ідэі на шкоду беларускім інтарэсам, сябры Сойму вырашылі не ўносіць гэтае пытаньне ў парадк дня (магчыма, што дыскусія па гэтай праблеме будзе працягнутая ў асобным фармаце).

Сойм Партыі БНФ прыняў рашэньне ўзяць удзел у наступных выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў дэпутатаў, якія павінныя адбыцца не пазьней за 20 лютага 2018 года (выбарчая кампанія павінная стартаваць ужо сёлета). Папярэднне абавязкі выбарчага штабу вырашана ўсклaсьці на управу Партыі БНФ з магчымым далучэньнем да яе працы прадстаўнікоў профільных камісіяў Сойму. Штаб зоймецца пытаннямі фармавання спісу кандыдатаў, а таксама падрыхтоўкай сябраў партыі да ўдзелу ў мясцовых выбарах.

Як паведаміў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, гэта пытаньне ўжо абмяркоўвалася палітычнай камісій партыі, якая прапануе пачаць фармаваць свой сьпіс партыйных прэтэндэнтаў на вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты. Пры гэтым ён адзначыў, што прапануецца як партыйнае вылучэньне, так і збор подпісаў. Таксама Янукевіч падкрэсліў, што на дадзены момант партыя не плануе прымаць удзел у фарміраванні агульнага спісу кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў з іншымі арганізацыямі. У той жа час ён адзначыў, што пакідаецца магчымасьць на рэгіянальным узроўні «пры наяўнасьці мэтазгоднасьці» прымаць удзел у фарміраванні рэгіянальных сьпісаў кандыдатаў з удзелам іншых апазіцыйных структур.

У абмеркавньні падрыхтоўкі да мясцовых выбараў узялі ўдзел сябры Сойму, а таксама экс-кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад партыі БНФ Васіль Астроўскі, Ільля Дабратвор, Мікалай Юшчук.

Кіраўніцтва партыі даклала сябрам сойму стан падрыхтоўкі да адзначэньня 99-х угодкаў абвяшчэньня трэцяй устаўной граматы Беларускай народнай рэспублікі: з ініцыятывы БНФ створаны шырокі аргкамітэт сьвяткаваньня, які адкрыты да далучэньня ўсіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў. Пададзеная заяўка на правядзеньне акцыі ў Менску 25 сакавіка: плянуецца дэманстрацыя, адным з заяўнікаў якой выступіў старшыня Мінскай гарадзкой арганізацыі Партыі БНФ Зьміцер Касьпяровіч, а таксама прадстаўнікі БХД, АГП і Руху "За Свабоду". Першае пасяджэньне аргкамітэту вылучыла асноўныя лёзунгі акцыі, наступная сустрэча павінная адбыцца 7 лютага пры ўдзеле грамадзкага камітэту адзначэньня стагоддзя БНР. Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч адзначыў наяўнасьць некаторых супярэчаньняў з групай Міколы Статкевіча адносна бачаньня будучай акцыі, аднак выказаў спадзяваньне, што ў межах шырокага аргкамітэту гэтыя супярэчаньні будуць вырашаныя (на наступнае пасяджэньне аргкамітэту Дня волі-2017 запрошаныя і Мікола Статкевіч, і Уладзімер Някляеў). Аляксей Янукевіч асобна падкрэсліў, што ва ўмовах узрастаньня пагрозаў беларускай незалежнасьці вельмі важна, каб сёлетняя акцыя да Дня Волі адбылася годна і была па-сапраўднаму масавай.

Кіраўніцтва партыі заклікала рэгіянальныя структуры падаваць заяўкі на правядзеньне масавых акцыяў да Дня Волі і ў іншых гарадах Беларусі.

Напярэдадні Дня Волі 9 сакавіка адбудзецца канферэнцыя з нагоды стагоддзя першага Усебеларускага з'езду, які стаўся пачаткам адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці. Плянуюцца таксама акцыі па раздачы беларускіх нацыянальных стужачак і выраб друкаванай прадукцыі да Дня волі.

У пункту парадку дня "Рознае" сябрамі Сойму былі папярэдне абмеркаваныя магчымыя даты правядзеньня чарговага справаздачна-выбарчага XVIII З'езду Партыі БНФ і Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне", які павінны адбыцца не пазьней за 11 кастрычніка, а таксама магчымыя пэрыяды правядзеньня рэгіянальных сходаў па вылучэньні дэлегатаў з'езду. Перад сябрамі Сойму выступіў і адказаў на пытаньні кіраўнік мінскай раённай арганізацыі Партыі БНФ, экс-кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Ільля Дабратвор, які ўжо заявіў аб сваіх амбіцыях вылучацца на наступным з'ездзе на пасаду старшыні Партыі БНФ.

Сябры сойму паведамілі пра падрыхтоўку бліжэйшых з'ездаў Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Сябры Сойму абмеркавалі сытуцыю з апошнімі выпадкамі звальненьня з працы сябраў Фронту і акрэслілі магчымыя кірункі дапамогі тым фронтаўцам, якія страцілі працу, у тым ліку магчымасьці садзейнічаньня ў працаўладкаваньні.

З боку прысутных на пасяджэньні Сойму сябраў Партыі БНФ была выказаная прапанова да выканаўчых органаў партыі абмеркаваць стварэньне камісіі па працы з прадпрымальнікамі.

# 99% БЕЛАРУСАЎ ЛІЧАЦЬ...

краіны. Толькі 9,3% мелі досьвед доўгага пражываньня за мяжой (больш за паўгода жылі, вучыліся ці працавалі там), а 69% выяжджаюць за мяжу не часьцей аднаго разу на год.

61% беларусаў адзначылі, што не валодаюць замежнымі мовамі, акрамя расейскай. Кожны пяты апытаны лічыў, што ў Беларусі адна дзяржаўная мова — беларуская. 3,4% лічылі, што толькі расейская, 76% ведалі, што расейская і беларуская.

5,8% ня здолелі даць правільнага адказу на пытаньне, колькі ў Беларусі абласьцей, амаль 17% не змаглі адказаць, з кім Беларусь мяжуе (9,5% забывалі Літву і Латвію).

Толькі 4,2% «дастаткова дасьведчаныя» ў тым, як трацiцца і складаецца дзяржаўны бюджэт, а 19,3% лічаць, што «хутчэй дасьведчаныя». 38% пра гэта зусім ня ведаюць.

Галоўным сваім правам 50,1% беларусаў назвалі права на жыцьцё (Беларусь — апошняя краіна Эўропы, у якой гэтага права можа пазбавіць суд). Сьледам ішлі права на працу (49,3% беларусаў), адукацыю (30,2%), мэдыцынскае абслугоўваньне (19,7%), свабоду (16,6%), адпачынак (15,7%), свабоду слова (11,8%).

Галоўным жа абавязкам 59% беларусаў назвалі абавязак выконваць законы. Далей ідуць абавязкі плаціць падаткі (40%), працаваць (28,7%, хоць такі абавязак нідзе не прапісаны, беларусы мусяць плаціць «падатак на дармаедаў», калі менш за 183 дні «фінансаваў дзяржаўныя выдаткі»), ахоўваць навакольнае асяродзьдзе (16,2%), бараніць Радзіму (15,6%), выконваць Канстытуцыю (11,8%).

http://www.svaboda.org/a/28322168.html